ПУЛЬС

## Казна папоўнілася кілаграмам золата

Супрацоўнікі Гродзенскай рэгіянальнай мытні прадухілілі на мінулым тыдні дзве спробы парушэння мытнага заканадаўства ў частцы правозу залатых вырабаў. У выніку было канфіскавана 419 залатых вырабаў агульнай вагой каля 1 кілаграма на суму прыблізна 22 млн. рублёў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта, 5 лістапада грамадзянін Расіі пры ўездзе з Польшчы ў Беларусь на легкавым аўтамабілі не ўказаў у мытнай дэкларацыі і не прад'явіў да мытнага афармлення 208 залатых вырабаў.

Яшчэ адзін факт парушэння быў зафіксаваны 6 лістапада, калі ў жыхаркі Гродзенскай вобласці ў дарожнай сумцы сярод розных рэчаў былі знойдзены 211 залатых вырабаў на суму больш за 12 мільёнаў рублёў.

Па абодвух фактах заведзены справы аб адміністрацыйных мытных правапарушэннях.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Гамяльчане пабудуюць у Маскве спорткомплекс

Будаўнікі з Гомеля пабудуюць у расійскай сталіцы сучасны спартыўны комплекс, паведаміла прэс-служба беларускага пасольства ў Маскве. Ён будзе ўзведзены ў Паўднёва-Заходняй акрузе мегаполіса, з якім гамяльчане заключылі доўгачасовае пагадненне аб супрацоўніцтве. З удзелам гомельскіх спецыялістаў ужо распрацаваны праект комплексу.

Гэта не першы аб'ект, што будуць узводзіць у Маскве гомельскія будаўнікі. Так, прадпрыемства "Палессеводбуд" здало сёлета ў эксплуатацыю шматкватэрны жылы дом, яшчэ адзін такі дом будуецца. Гомельскі будаўніча-мантажны трэст № 27 пабудаваў у расійскай сталіцы індывідуальныя катэджы агульнай жылой плошчай 5 тысяч квадратных метраў, узвёў комплекс будынкаў міжнароднай групы кампаній "ІТЭРА", а таксама шматпавярховую аўтастаянку ў Паўночнай акрузе Масквы.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Мінск у Інтэрнеце

У Інтэрнеце па адрасе www.info.minsk.by з'явіўся новы сайт "МінскгарІнфаСервіс", на якім змешчана даведачная інфармацыя пра Мінск.

Сайт створаны па распараджэнні Мінгарвыканкама спецыялістамі рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Інфармацыйнае таварыства" пры фінансавай падтрымцы праграмы Тасіс і прызначаны для аказання інфармацыйных паслуг насельніцтву сталіцы.

## «Размова сляпога з глухім»

"Размовай сляпога з глухім" назваў прэзідэнт канцэрна "Беллегпрам" Эдуард Нарышкін перамовы прадстаўнікоў канцэрна з Еўрапейскай камісіяй наконт павелічэння квот на пастаўку ў краіны ЕС беларускага тэкстылю, якія прайшлі ў пачатку лістапада.

Выказаўшы спачатку згоду на павелічэнне квот для Беларусі на суму 150 млн. долараў ЗША, у канцы перамоўнага працэсу члены Еўракамісіі прад'явілі палітычныя патрабаванні. Паводле слоў Нарышкіна, Беларусь, у прыватнасці, абвінавацілі ў парушэнні правоў членаў прафсаюзных рухаў і запатрабавалі выправіць сітуацыю. Паколькі вырашэнне палітычных пытанняў не ўваходзіць у кампетэнцыю "Беллегпрама", перамовы ў чарговы раз зайшлі ў тупік, у той час як ужо за першае паўгоддзе гэтага года квоты па бавоўняных і льняных тканінах былі цалкам выкарыстаны.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Беларускі клон

Навукоўцы Беларусі і Расіі ствараюць праграму "Распрацоўка тэхналогій тэрапіі дэгенератыўных захворванняў з выкарыстаннем эмбрыянальных стваловых клетак", разлічаную на 2004—2006 гады.

Як паведаміў БелаПАН загадчык кафедры біяфізікі фізічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта Сяргей Чаранкевіч, у рамках згаданай праграмы беларускія навукоўцы змогуць вырашыць праблему аднаўлення органаў. Так, дзякуючы клетцы, узятай з арганізма чалавека, змешчанай у неабходныя ўмовы, можна напрацаваць большыя аб'ёмы тканак. Паводле яго слоў, за два тыдні з аднаго тыпу клетак можна нарасціць кілаграмы масы. Пры захворваннях розных органаў падчас аперацыі гэтая маса можа быць унесена ў пашкоджаны орган, што будзе стымуляваць яго аднаўленне. Такім чынам, падкрэсліў спецыяліст, магчыма аднавіць любы орган, выкарыстоўваючы клеткі з арганізма чалавека.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Супраць наркотыкаў

Па ініцыятыве і пры фінансаванні Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН (ПРААН) пачалася рэалізацыя праграмы "Барацьба з незаконным абаротам і гандлем наркотыкамі ў Беларусі, Украіне і Малдове" (БУМАД).

Як паведаміў БелаПАН у Дэпартаменце грамадскай інфармацыі прадстаўніцтва ААН у Мінску, бюджэт першага этапа праграмы, разлічанай на пяць гадоў, складае 2,2 мільёна еўра. З іх 700 тысяч еўра выдаткавана для Беларусі.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Падлеткі абрабавалі расіяніна

Паводле звестак прэс-службы УУС Гомельскага аблвыканкама, 10 лістапада ў 18.30 два маладых чалавекі ўвайшлі ў нумар гатэля Светлагорскага цэлюлозна-кардоннага камбіната, дзе спыніўся грамадзянін Расіі, і з прымяненнем насілля выкралі радыётэлефон "Самсунг" і барсетку.

Як паведаміў пацярпелы, ён пусціў злачынцаў у нумар, таму што тыя прадставіліся работнікамі раённай электрасеткі. У выкрадзенай барсетцы знаходзілася 660 долараў ЗША, 9 тысяч расійскіх рублёў і 856 тысяч беларускіх рублёў.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку вызначылі, што злачынства здзейснілі навучэнец ПТВ 1986 года нараджэння і вучань 9-га класа адной са школ Светлагорска. Частку выкрадзенага ўдалося вярнуць. Узбуджана крымінальная справа па факце рабавання. Цяпер падлеткі адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

**Алена КАЛАЧОВА.**

НАШЫ ЗА МЯЖОЙ

# Мюнхенскія музыканты

## Два браты-беларусы зарабляюць грошы ў Германіі, але дзяўчат шукаюць у Беларусі

*Калі ў 1996 годзе Алесь Лявончык, сын вядомага музыканта-цымбаліста Аляксандра Лявончыка, накіраваўся ў паўднёванямецкі Мюнхен, сваякі думалі, што ён хутка вернецца. Але піяніст Алесь вырашыў выкарыстаць свой статус вольнага мастака і паспрабаваць вучыцца і працаваць за мяжой. Атрымалася. Неўзабаве Алесь скончыў джазавае аддзяленне Мюнхенскай кансерваторыі, потым пачаў шукаць заказы сярод мясцовых бюргераў.*

*Зараз 35-гадовы музыкант разам са сваім малодшым братам Міхаілам, дарэчы, музыкантам-цымбалістам, здымае ў сусветнай сталіцы піва і музыкі двухпакаёвую кватэру.*

*У Мінску браты бываюць не так часта — два-тры разы ў год. У адзін са сваіх візітаў яны завіталі ў рэдакцыю "Народнай волі".*

**— Алесь, чаму Вы вырашылі пайсці ў музыканты? Бацька дапамог з выбарам?**

— Музыка чымсьці падобна на вялікі спорт, ёю трэба займацца з ранняга дзяцінства. У сям'і музыканта, натуральна, гэта рабіць значна лягчэй.

**— А чаму вырашылі вучыцца ў Германіі?**

— Справа ў тым, што ў Мінску навучыцца джазу амаль немагчыма, няма нават ніякіх прафесійных курсаў. У Мюнхене мяне навучаў джазу сапраўдны прафесіянал — прафесар Леанід Чыжык.

**— Прозвішча прафесара мала нагадвае нямецкае...**

— Так. Але на былой савецкай прасторы музыкантам гэта прозвішча добра вядомае.

**— Як бы Вы вызначылі свой цяперашні статус?**

— Вольны музыка, які зарабляе сабе на хлеб музыкай. Некалькі дзён у тыдзень выкладаю ў музычнай школе. Але асноўная крыніца даходаў — гэта праца ў разнастайных калектывах альбо ў адзіночку — у залежнасці ад заказу. Ёсць пастаянныя кліенты, але большасць — выпадковыя: патэлефануюць, збяромся, адна-дзве рэпетыцыі і — наперад! Граем на розных мерапрыемствах камерцыйных фірм, на вечарынах, калі добра заплацяць — то і на вяселлях.

**— А што, Алесь, ёсць у Германіі з таго, чаго няма ў Беларусі?**

— Германія прадастаўляе правы і дае магчымасць кожнаму займацца сваёй справай, не асабліва задумваючыся пра бытавыя цяжкасці. Пражытачны мінімум у Еўропе мае кожны чалавек, які добра робіць сваю справу і ў каго ёсць галава на плячах, гэтага дастаткова, каб зняць кватэру, апрануцца, мець добрую ежу. Гэта тое, што ляжыць на паверхні. Узровень жыцця ў Германіі абсалютна іншы ў параўнанні з Беларуссю — пра гэта можна гаварыць бясконца...

**— Ці ёсць у Вас сваё аўто?**

— Карыстаюся ў асноўным грамадскім транспартам. Але машына ў мяне таксама ёсць — зусім не дарагая. Я набыў яе толькі таму, што гэтага патрабавала мая праца — часам даводзіцца браць з сабой электрапіяніна. Каштавала мая сямігадовая "Мазда-626" усяго 4,5 тысячы еўра. Але машына — дарагая цацка, адразу ж цягне за сабой страхоўкі, бензін вельмі дарагі ў Германіі. Усё жыццё я нармальна абыходзіўся і без машыны.

**— Ці адчуваеш сябе ў Германіі больш свабодным, чым у Беларусі?**

— Пытанне цяжкае. Калі гаварыць аб свабодзе, то я хачу сказаць, што і тут, у Беларусі, я ніколі не адчуваў сябе несвабодным. Зараз, магчыма, у Германіі я адчуваю сябе больш свабодным, чым адчуваў бы на радзіме. Шмат часу прайшло з таго моманту, як я з'ехаў з Беларусі... Але Беларусь для мяне была, ёсць і будзе Радзімай. Дахаты ўвесь час цягне — раней прыязджаў два разы ў год, зараз — часцей.

**— А што цягне?**

— Па-першае, хочацца пабачыцца са сваякамі, педагогамі. Вельмі люблю наведваць вёску. Па-другое, у мяне ў Мінску дзяўчына, так што зараз у маім асабістым жыцці адбываюцца змены...

**— Наколькі я зразумеў, гэта яна з Вамі і зазірнула ў "Народную волю"?**

— Так. Яна таксама музыкант, завуць яе Вераніка. Яна скончыла ў свой час кансерваторыю, зараз грае на скрыпцы ў Дзяржаўным аркестры Міхаіла Фінберга. Вераніка не выключае, што таксама хутка з'едзе ў Германію.

**— Чаму?** — звяртаюся да Веранікі.

**Вераніка:** — Хочацца жыць годна і адчуваць сябе свабоднай! Побач з каханым чалавекам...

**— А чым, Алесь, вы з братам бавіце вольны час у Германіі?**

— А вольнага часу ў нас амаль і няма. Там, у Германіі, калі нехта адчувае за сабой нейкія здольнасці і талент, яму заўсёды хочацца нешта рабіць. Чаму? Таму што заўсёды хочацца быць лепшым у сваёй прафесіі.

**— Што дапамагае ў жыцці на чужыне?**

— Дапамагаюць спорт і адсутнасць шкодных звычак. Я, напрыклад, пяць месяцаў у год купаюся ў адкрытых вадаёмах — у Германіі цяплей, чым у Беларусі. Гэта дапамагае мне трымаць галаву ў ясным розуме, а цела ў добрай форме. Музыка для мяне, дарэчы, не толькі прафесія, але і хобі. Таму і мой вольны час аддадзены ёй.

**— А не цісне на Вас чужое грамадства, чужая мова?**

— Ёсць, канешне, пэўныя нюансы, пэўныя цяжкасці. Але я не магу сказаць, што на мяне ціснe чужое грамадства. Мы проста жывём музыкай. Пакуль мы адчуваем, што развіваемся, мы задаволены гэтым. А ў нашым жыцці адбываецца, на шчасце, больш станоўчага, чым адмоўнага. Што тычыцца мовы, то гэта наогул — не праблема, асабліва для чалавека, які жыве ў Германіі пастаянна. Тым больш што ў нашай прафесіі моўныя веды набываюцца паступова.

**— Ці збіраецеся прасіць палітычнага прытулку ў Германіі?**

— Канешне не! А навошта мне прытулак? Справа ў тым, што мой статус ужо даўно вызначаны, ён вызначыўся адразу ж пасля заканчэння кансерваторыі — гэта статус вольнага мастака. Да таго моманту, пакуль я плачу падаткі гэтай краіне (Германіі. — **А.С.**), я буду ў ёй навучацца і працаваць.

**— Ці задавальняе Вас гэты статус? Альбо Вы будзеце ўсё ж такі імкнуцца займець нямецкае грамадзянства?**

— Атрымаць нямецкае грамадзянства я не імкнуся, таму што ў мяне цесныя сувязі з Беларуссю. Пра тое, каб прасіць прытулку, я наогул не думаю. Я хачу прыязджаць дахаты тады, калі мне захочацца.

**— Вы сказалі, што часта прыязджаеце ў Беларусь. А ці ёсць нешта ў Беларусі, чаго няма ў Германіі?**

— У Германіі зусім іншая ментальнасць. Яна мне ўжо стала блізкай, таму што я жыву па тых законах. Я прыняў, у рэшце рэшт, тую ментальнасць. Але дахаты ўсё роўна цягне. Адна з прычын — мне не ўдалося наладзіць у Германіі сямейнае жыццё, знайсці сваю палавінку. Не хапае мне чагосьці ў мясцовых жанчынах. Вось нашы жанчыны — самыя лепшыя ў свеце. І гэта галоўнае, чаго няма ў Германіі.

**— Як Вы наогул ставіцеся да той сітуацыі, што нашы людзі (асабліва людзі культуры) вымушаны ехаць за мяжу, каб зарабіць грошы, каб не атрымліваць на радзіме той мізэр, якога, як гаварыў вядомы палітычны персанаж, хапае "на тваражок і крыху мяска"?**

— Нічога добрага ў гэтым, натуральна, няма. Людзі павінны нармальна зарабляць у сваёй краіне. Але творчая эміграцыя — з'ява нармальная ва ўсім свеце. У XIX—XX стагоддзях людзі перамяшчаліся — Амерыка, Заходняя Еўропа — перамяшчаюцца і цяпер. І калі ім добра і выгадна знаходзіцца ў іншай краіне — няхай жывуць сабе на здароўе.

**— З кім ладзіце кантакты ў Германіі?**

— У асноўным з калегамі-музыкантамі. У Мюнхен яны прыехалі з усяго свету — з Італіі, Аўстрыі, нават з ЗША. Некаторыя мае знаёмыя амерыканскія музыканты сцвярджаюць, што ў Германіі ім працуецца лепш, чым на радзіме. У Германіі наогул вельмі цікава жыць, увесь час нешта адбываецца.

**— А ці шмат беларусаў у Мюнхене?**

— Шчыра кажучы, няшмат. У асноўным гэта музыканты і бэбі-сітэры — жанчыны, якія сядзяць з дзіцем. Чаму мала? Застацца ў Германіі нашаму грамадзяніну вельмі цяжка, нават калі яму альбо ёй вельмі хочацца.

**— Калі сустракаеце беларуса ці беларуску ў Германіі, радуецеся?**

— Канешне. Калі я даведваюся, что чалавек з Беларусі, я заўсёды радуюся. Калі яму патрэбна дапамога і я магу яе аказаць, я заўсёды дапамагу земляку.

**— У свой час мне давялося бываць у бельгійскім горадзе Лювэне, дзе падчас музычнага фестывалю сустрэў музыкантаў з Беларусі, якія звычайна працавалі на вуліцы. Зараблялі па бельгійскіх мерках няшмат, але значна болей, чым у Беларусі. Ці існуюць такія рэаліі ў Мюнхене?**

— Бываюць у нас музыканты з Беларусі, якія выступаюць на вуліцах. Прыязджаюць як групамі, так і ў адзіночку. Але такім жа чынам паступаюць і музыканты з другіх краін. Я лічу, што гэта толькі ўпрыгожвае горад, надае яму непаўторны каларыт. Канешне, калі музыкантаў становіцца на вуліцах зашмат, улады неяк гэты працэс рэгулююць. Іншымі словамі, нельга так проста "забраніраваць" за сабой пэўнае места на вуліцы і выступаць. Трэба гэта месца знайсці... У любым выпадку лічу: тое, што людзі цэлымі днямі стаяць на вуліцы і граюць, — гэта не ад добрага жыцця, а хутчэй ад адчаю.

**— Як ваша маці ставіцца да таго, што Вы з братам з'ехалі за мяжу?**

— Пакуль мама бачыць нашы шчаслівыя твары і адчувае, што ў нашым жыцці адбываецца нешта добрае, яна нармальна ставіцца да мюнхенскай эпапеі. Нават маральна падтрымлівае.

**— Давайце, Алесь, уявім сабе такую віртуальную сітуацыю: Вы — прэзідэнт. Што зрабілі б у першую чаргу?**

— Калі б я быў кіраўніком дзяржавы, я проста павучыўся ў цывілізаванага свету, якім чынам працуе сістэма кіравання грамадствам — у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, навуцы, культуры. Я, у рэшце рэшт, развязаў бы людзям рукі — рабіце, што хочаце, толькі не парушайце закон. Амаль усё зрабіў бы прыватным, каб кожны беларус адчуваў на кожным квадратным метры сябе гаспадаром. Такая сістэма кіравання ўжо рэальна працуе ў Германіі. Чаму б ёй не працаваць у нас, у Беларусі? І не трэба на кожным рагу гаварыць пра нейкае ўзмацненне дысцыпліны, пра бітвы за ўраджай і г.д. Калі глядзіш з Еўропы на тое, што адбываецца зараз у Беларусі, то інакш як з цыркам параўнаць гэта нельга...

*Тут да нашай гутаркі далучыўся малодшы з Лявончыкаў — Міхаіл, які навучаецца ў Мюнхенскай кансерваторыі, таксама на джазавым аддзяленні. На маё пытанне, як яму жывецца, адказаў так:*

— Як жывецца любому халасцяку.

**— Наколькі, Міша, твае цымбалы запатрабаваны ў Германіі?**

— Беларускіх цымбалаў у Германіі, натуральна, наогул няма. Але ёсць баварскі аналаг — хакбрэт. Цымбалы запатрабаваны ў асяроддзі тых, хто шануе такую музыку. Яны могуць запрасіць мяне паіграць, заплаціць за маю працу.

**— А ў Мінску дзе іграў?**

— На розных мерапрыемствах. Нават прэзідэнта "абслугоўваў". Неяк зрабіў, з пункту гледжання ўлад, недапушчальную рэч — згадзіўся паіграць на прэзентацыі кнігі фотаздымкаў Зянона Пазьняка, якая адбывалася ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Які падняўся скандал у кансерваторыі пасля гэтага! Хтосьці патэлефанаваў рэктару, пачалі "працаваць" з маім педагогам...

**— Як наогул ставішся да Зянона Станіслававіча?**

— Вельмі добра, з павагай.

**— А чаму вырашыў паехаць за мяжу — з-за скандалу ў кансерваторыі?**

— Захацелася свабоды. Ды і педагог у Мюнхене выкладае проста цудоўна!

**— А ці атрымаў ты ў Германіі тую свабоду, якую хацеў?**

— Думаю, да! Мне ўжо не трэба, каб зарабіць нейкія грошы, трэсціся на працягу тыдня ў старым аўтобусе, каб з'ездзіць на гастролі ў Францыю з Мінска. Мне зараз ніхто не ўказвае, дзе граць, што граць.

**— Міхаіл, я ўжо задаваў гэтае пытанне Алесю. Але хацеў бы пачуць ад цябе: як ты ставішся та таго, што нашы суайчыннікі вымушаны з'язджаць на заробкі за мяжу?**

— Не ўхваляю. Любы чалавек павінен мець нармальны заробак у сябе на радзіме. У нас, у Беларусі, дамагчыся гэтага вельмі цяжка. Амаль немагчыма. Амаль усе мае сябры-музыканты з'язджаюць. Гэта, дарэчы, зусім не значыць, што ў Германіі мы як сыр у масле катаемся, ёсць шмат праблем. Але там мы свабодныя!

**— Я бачу, Міхаіл, што пытанне аб другой палавіне для цябе стаіць не на апошнім месцы. А на якой мове ты знаёмішся ў Германіі з дзяўчатамі?**

— На мове жэстаў і "мяккага пагладжвання" *(смяецца)*. Калі дзяўчына гэтую мову разумее, то усё наладзіцца — кантакт будзе.

**— А на мове цымбалаў не спрабаваў?**

— Было і так.

**— Не выключаеш магчымасці застацца ў Германіі назаўсёды?**

— Не выключаю. Толькі застацца ў Германіі вельмі цяжка. Але і дома наогул пакуль няма чаго рабіць — мне нават ніякай працы пасля кансерваторыі не прапаноўваюць. Але я не крыўдую, а спрабую сам вырашаць усе праблемы.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**

*Міхаіл паміж Крысціянам Дзіёрам і Аленам Дэлонам.*

ІНІЦЫЯТЫВА

# Замест камсамольскага бульвара — бульвар імя Васіля Быкава

*З такой прапановай прадстаўнікі гарадской інтэлігенцыі — літаратары, навукоўцы звярнуліся да гарадскіх улад Гродна. Яны прапануюць цэлую праграму ўвекавечання памяці народнага пісьменніка Беларусі, які шмат гадоў быў гродзенцам. Днямі прапановы з подпісамі былі перададзены мясцовым уладам.*

Свае подпісы паставілі 517 чалавек, 417 з якіх — жыхары бульвара Ленінскага камсамола. З савецкага часу яго заўсёды называлі толькі скарочана — у выглядзе абрэвіятуры "БЛК", быццам саромеючыся назвы. Напачатку 1990-х гадоў тапанімічная камісія прапанавала перайменаваць яго ў бульвар Браніслава Тарашкевіча, аднак дэпутаты гарсавета не адважыліся. Ініцыятары ўвекавечання памяці Васіля Быкава звярнуліся да дэпутата гарадскога Савета Сяргея Антусевіча. І вось што ён сказаў.

— Я падрыхтаваў лісты да старшыні Гродзенскага гарвыканкама Антоненкі і старшыні Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў Казялкова, а таксама да дэпутатаў — сваіх калегаў, каб яны разгледзелі гэтыя прапановы і прынялі рашэнне па ўшанаванні памяці Васіля Быкава. Гэта не толькі прапанова аб перайменаванні вуліцы, гэта яшчэ і ўсталяванне мемарыяльнай шыльды, і адкрыццё музея, а таксама пабудова помніка Васілю Быкаву.

У аўторак дэпутат перадаў прапановы жыхароў разам з падпіснымі лістамі ўладам. Цікава, што гараджане прапануюць назваць імем Васіля Быкава таксама вуліцу Свярдлова, на якой пісьменнік жыў апошнія гады свайго гродзенскага побыту. Гэта, можна сказаць, на выбар уладаў. Сярод іншых - прапанова пасмяротна надаць Васілю Быкаву званне ганаровага грамадзяніна горада, заснаваць быкаўскія чытанні, літаратурную прэмію і іншыя прапановы.

— Гэтая постаць у беларускай культуры папросту непараўнальная, відаць, у найноўшай гісторыі з нейкімі іншымі. Я думаю, што мы павінны гэтым ганарыцца і падтрымліваць любыя памкненні, каб памяць Васіля Быкава была належным чынам ушанавана.

Сяргей Антусевіч лічыць вельмі важным, што гродзенцы сёння маюць магчымасць хадзіць па вуліцах князя Давыда Гродзенскага альбо караля Стэфана Баторыя — вельмі вядомых постацяў у гродзенскай гісторыі. У першай палове 1990-х гадоў каля дзясятка гродзенскіх вуліц змянілі свае назвы. Але найбольш ідэалагізаваныя назвы засталіся — Савецкая, Сацыялістычная, Леніна, Ленінскага камсамола. Апошняй гараджане прапануюць сёння надаць імя Васіля Быкава, які 24 гады пражыў у Гродне, напісаўшы большасць твораў дзякуючы якім стаў вядомым у свеце пісьменнікам.

Улады толькі ў адным апярэдзілі жыхароў горада. Яшчэ тры месяцы таму гарвыканкам прыняў рашэнне ўсталяваць мемарыяльную шыльду на доме, дзе жыў пісьменнік. Праўда, саветызаваны тэкст выклікаў крытыку з боку творчай інтэлігенцыі. Зацвердзіць рашэнне гарадскіх уладаў наконт мемарыяльнай шыльды, прысвечанай Васілю Быкаву, павінен аблвыканкам, але там з гэтым не спяшаюцца.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ,**
*Радыё "Свабода".*

*Дарэчы*

## У Віцебску імем Быкава прапануюць назваць ленінскую бібліятэку

Як ужо паведамляла "Народная воля", з такой ініцыятывай выступілі прадстаўнікі Віцебскага абласнога савета "Таварыства беларускай мовы".

Як гаворыць старшыня арганізацыі **Іосіф Навумчык**, нават не трэба тлумачыць, што зрабіў для Беларусі Быкаў, а што — Ленін, імя якога носіць Віцебская абласная бібліятэка.

Пытанне аб перайменаванні вырашаецца ва Упраўленні культуры Віцебскага аблвыканкама. Яго супрацоўнікі сцвярджаюць, што канчатковы адказ з'явіцца не раней за снежань. Рабіць прагнозы яны адказваюцца. Аднак у прэсе са спасылкай на супрацоўнікаў упраўлення з'явілася інфармацыя, што пытанне можа быць вырашана на карысць Быкава: з усіх чыноўнікаў, якіх апрасілі, супраць амаль ніхто не выказаўся.

Іосіф Навумчык дадае, што адпаведныя лісты Рада ТБМ даслала і ў Віцебскі гарвыканкам, гарсавет, Міністэрства культуры, Саўмін і Адміністрацыю прэзідэнта. "Аднак адтуль таксама афіцыйнага адказу мы яшчэ не атрымалі, — гаворыць Навумчык. — Вырашылі чакаць яшчэ тыдзень, а пасля накіруем дэлегацыю на перамовы да мясцовых улад".

У абласным савеце "ТБМ" кажуць, што мясцовыя жыхары ў большасці падтрымліваюць ініцыятыву даць бібліятэцы імя славутага беларускага пісьменніка. Аднак катэгарычна супраць перамен выказаліся пенсіянеры Віцебскай вобласці. Між іншым, не без дапамогі мясцовай прэсы. У газеце "Віцебскі рабочы", заснаванай Віцебскім аблвыканкамам і абласным Саветам дэпутатаў, пад рэтраграднай назвай "Отстоим имя Ленина" з'явілася падборка гнеўных чытацкіх лістоў, якія выказаліся супраць перайменавання бібліятэкі. Аднак цікава, якія б водгукі даслала моладзь, калі б з адпаведнай прапановай газета звярнулася да яе? Беларускія школьнікі з цяжкасцю нават могуць патлумачыць, хто такі Ленін, а прозу Васіля Быкава вывучаюць ужо ў чацвёртым класе.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НУ И НУ!

## Погорел на взятке

*Некоторые некогда процветающие белорусские предприятия находятся в настоящее время в критическом финансовом положении. Вот и гомельский судостроительный-судоремонтный завод, славившийся далеко за пределами Беларуси речными судами на подводных крыльях, оказался банкротом.*

Дело дошло до распродажи оборудования и даже производственных площадей. Как говорится, "гори сарай, гори и хата". Но процедура банкротства для заместителя директора завода Евгения Корзуна показалась... весьма выгодной. Директор фирмы ООО "М-ТЭКС", пожелавший приобрести цех наплавки валов, мог рассчитывать на покупку, выплатив двадцать тысяч долларов в... карман должностного лица. За это было обещано содействие в победе на аукционе. Передача аванса в пять тысяч баксов происходила в караульном помещении охраны завода в формате "один на один". Нетрудно догадаться, кто появился в дверях после пересчета банкнот мздоимцем...

И хотя экс-зам всячески пытался откреститься от безосновательного, по его мнению, обвинения, светящиеся в ультрафиолете руки от нанесенного на валюту люминофора выдали Корзуна с головой. Все необходимые в таких случаях следственные действия "опера" производили в присутствии понятых. Суд Центрального района Гомеля вынес приговор, по которому бывший заместитель директора осужден к семи годам лишения свободы с содержанием в исправительной колонии усиленного режима с конфискацией имущества.

## Хотели поживиться — попали в колонию

*Уроженцы деревни Бобовичи, а ныне гомельчане Виталий и Сергей Приваловы, узнав о похищении у земляка-сельчанина иномарки, решили на чужом горе... подзаработать.*

План оказался донельзя простым — созвонившись с бывшим соседом, договорились о возврате автомашины за 1300 у.е. Для получения выкупа пришлось привлечь знакомого, которого потерпевший раньше и в глаза не видывал. Встреча, состоявшаяся на конечной остановке транспорта у завода "Кристалл", принесла троице желанную сумму, а бедолага-потерпевший получил записку с адресом гаража, в котором якобы хранился его "железный конь". На самом деле ребятки блефовали — к похищению автомобиля они не имели никакого отношения, а посему о месте его нахождения знать ничего не могли.

Мошенники-дилетанты не догадывались, что с момента звонка потерпевшему они оказались в поле зрения компетентных органов.

Суд Гомельского района воздал каждому из любителей халявы по заслугам — 24-летний Виталий проведет в исправительной колонии общего режима два с половиной года, его младший брат на три месяца меньше. Для исправления "связника" Олега Копытова суд посчитал вполне достаточным полутора лет неволи.

**Валерий КОЗУБОВ.**

ГЛАС НАРОДА

## Нужны, очень нужны такие объединения

Уважаемые сотрудники редакции газеты "Народная воля"!

Примите мое искреннее восхищение Вашей гражданской позицией в столь сложное для Беларуси и ее народа время.

Спасибо за то, что Вы, невзирая на материальные и политические сложности, несете правду людям, поддерживаете веру в Добро, Истину, Справедливость, призываете "встать с колен", людьми зваться.

Пишу Вам, чтобы подать свой голос в защиту аннулированного общественного объединения "Правовая помощь населению". На заре его открытия, где-то в 1998—1999 годах, я в поисках справедливости и законности вынуждена была приехать в столицу. Узнав о том, что в Минске есть общественное юридическое объединение, я посетила именно этот центр правовой помощи. И сейчас вспоминаю ту окрыленность, тот жизненный подъем, когда мне доброжелательно, без оглядки на "профессиональную тайну", коей пользуются лицензированные государственные адвокаты, доступным языком, совершенно бескорыстно объяснили все нарушения Закона в нашем деле, те темные стороны, которые практически не высвечиваются в подобных ситуациях, когда Закон нарушен судьей, прокурором или другим государственным лицом. Когда человеком манипулируют те инстанции, которые по долгу службы обязаны защищать закон и законность, когда они пользуются тем, что люди наши в своем большинстве верят власть имущим, потому что так воспитаны. Воспитанные честными на потребу государства, но защиту от государства получают не всегда. Юридическая безграмотность населения дает возможность чиновникам, в том числе судам и прокуратурам, отдельным их служителям, действовать по принципу: прав тот, у кого много прав, или закон, что дышло.

Ситуация, в которой оказалась наша семья, унесла шесть лет жизни, подорвала здоровье, убила веру в то, что человек у нас защищен Законом.

Нужны, очень нужны такие правовые объединения, которые могут оказать бескорыстную юридическую помощь малоимущим гражданам, раскрыть "тайну" юридических лабиринтов при нарушении Закона судом, прокуратурой.

Ведь, обратившись в коллегию государственных адвокатов, нужно иметь немалые средства, а результат будет зависеть от многих объективных и, скорее, субъективных обстоятельств. Пройдя все круги ада, хочется от своего имени и от имени многих и многих людей, потерявших веру в исполнителей и защитников Закона на государственном уровне, поддержать общественные объединения правовой помощи населению. Они нужны в нашей стране, и я не понимаю, почему их уничтожают.

**Галина Александровна КОТОВА,**
**пенсионерка,**
**бывший преподаватель музыки.**

*Гродно.*

